# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 48 (2294) 26 лістапада 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## РОЗДУМ ЛЯ ПАЛОТНАЎ АЛЯКСЕЯ МАРАЧКІНА



## ВЯШЧУН БЕЛАРУСКАСЦІ

Аляксей Марачкін, ці проста Мара (так падпісваецца мастак пад сваімі працамі), адметна-яркая, вартая руху нацыянальнага Адраджэння асоба. Другая персанальная выстава твораў у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі (першая — 1987 год у Полацку разам са скульптарам А. Шатэрнікам) дае падставу звярнуцца да чытачоў, каб яшчэ раз нагадаць, што ў асяроддзі беларускай нацыянальнай інтэлігецыі не перавяліся таленты. Сваёй творчасцю, грамадскай пазіцыяй Аляксей Марачкін уздымае прэстыж беларускай нацыі ў цывілізаваным свеце, аздараўляючы хворы на антынацыянальны нігілізм, духоўна знявolены люд.

У вачах абывацеля і проста скептыка творчы і жыццёвы лёс Аляксея незайздросны і незразумелы. І сапраўды, тыя, хто ведаюць, што такое нацыянальная культура і колькі зроблена ім дзеля яе ў жывапісе, музейнай справе, этнаграфіі, мастацтвазнаўстве, на палітычнай арэне, у паэзіі, бачаць кроплю ўвагі да яго з боку афіцыйных структур, якія кiруюць культуру. У свае 52 гады, з праграматычнага пункту гледжання, ён, бадай, нічога не мае: ні майстэрні, ні катэджа, ні дзяржаўнай ці якой іншай прэміі, ні ганаровага звання і іншых прывілеяў, што часта дасягаліся і дасягаюцца абачлівымі і разважнымі ў трыццаць ці крыху болей гадоў. Каб ён не быў сябрам Сойму Беларускага Народнага фронта «Адраджэнне», то, пэўна, быў бы сёння старшынёй Саюза мастакоў Беларусі, на якога балаціраваўся на ХІУ з'ездзе, што праходзіў у сёлетнім кастрычніку. Разам з пасадай, як гэта ў нас робіцца, атрымаў бы і мноства прывілей.

Грамадзянская пазіцыя, творчае аблічча Аляксея фарміравалiся менавіта тады, калі адышоў з зямнога быцця самабытны мастак Лявон Баразна, калі наш народ гнуўся падчас будаўніцтва «развітога сацыялізму». Сёння мы закладаем падмурак прававой, дэмакратычнай дзяржавы. Нацыянальнае мастацтва творыцца не па ка-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПЕРШЫ ІЛЮСТРАТАР «ВАЙНЫ І МІРУ»

*Ён быў таленавіты ва ўсім і адукаваны выдатна; разбіраўся ў многіх навуках: ведаў некалькі моў, жывапіс, скульптуру, архітэктуру, разьбу па дрэву, іграў на раялі, што пажадаецe,.. цудоўна спяваў, да ўсяго гэтага быў далікатны, добры і сумленны чалавек.*

**Леў ЖАМЧУЖНІКАЎ.**

У пачатку 1866 года Леў Талстой нечакана захапіўся скульптурай. Зразумела, не проста як відам мастацтва. Прывабіла Льва Мікалаевіча сама лепка як працэс творчы. І да таго прыцягнула ўвагу, што вырашыў авалодаць яе сакрэтамі. Пачатак задумы надоўга не адкладваў. Прынамсі, у лісце паэту А. Фету, напісаным паміж 10—20 мая гэтага ж года, ён прызнаваўся: «Я ў цяперашняе знаходжанне ў Маскве пачаў вучыцца скульптуры. Мастаком я не буду, але занятак гэты ўжо даў мне шмат прыемнага і павучальнага».

Аб гэтым успамінае ў сваёй кнізе «Маё жыццё дома і ў Яснай Паляне» Таццяна Кузьмінская, малодшая сястра Соф'і Андрэеўны Талстой (дзявочае прозвішча іх, як вядома, Берс): «Зусім нечакана Леў Мікалаевіч, наведваючы школу жывапісу і скульптуры на Мясніцкай, захапіўся скульптурай». І робіць удакладненне: «У той час дырэктарам (на самай справе інспектарам. — **А. М.**) школы быў Міхаіл Сяргеевіч Башылаў, стрыечны брат маёй маці», — не прамінаючы выпадку ахарактарызаваць Башылава як асобу таленавітую і далёка не ардынарную: «Гэта быў чалавек надзвычай арыгінальны. Я вельмі любіла яго... Ён быў адораны талентамі, ці, хутчэй за ўсё, здольнасцямі.

Дзядзька Міша, праспявайце што-небудзь, — прыставала я да яго.

І ён спяваў прыемным, моцным барытонам старадаўнія рамансы Даргамыжскага, графа Віельгорскага і іншых, і калі словы былі пяшчотныя, як у рамансе Віельгорскага:

**Любила я твои глаза,**
**Когда их радость озаряла...**

я глядзела на яго, і яго велізарны рот, нос, усё складвалася, звужалася, і выходзіла нешта прыемнае і гарманічнае з яго велізарнай пашчы».

Як бачна з гэтых успамінаў, Башылаў належаў да людзей, якія аддаюць сябе мастацтву цалкам, апантана ўлюбёныя ў яго.

...Хто ж ён, Міхаіл Башылаў, у якога ўрокі лепкі браў сам Л. Талстой? Ды наш зямляк. Праўда, у дванаццацітомнай беларускай энцыклапедыі пра яго марна шукаць звесткі, а вось у энцыклапедыі «Літаратура і мастацтва Беларусі» ўжо ёсць адпаведны артыкул. І з'явіўся ён дзякуючы вядомаму беларускаму пісьменніку-даследчыку Генадзю Кісялёву, які першым на Беларусі падрабязна расказаў пра жыццёвы і творчы шлях М. Башылава, змясціўшы яшчэ ў 1974 годзе ў бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» (№ 1) артыкул «Ілюстратар мастацкай класікі».

Радзіма М. Башылава — Жлобіншчына. Ён нарадзіўся 3 студзеня 1821 года ў колішнім маёнтку Пірэвічы тагачас-

(Працяг на 7-й стар.).

## МОСТ, ЯКІ ЗЛУЧЫЦЬ УСХОД З ЗАХАДАМ



**По абодва бакі Буга, у Мінску і Варшаве, палітыкі расцэньваюць гэты візіт як надзвычай важны, а Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч назваў яго нават гістарычным. Адбыўся ён 18 лістапада, калі Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Польшча Ханна Сухоцка прыбыла ў Мінск. Галоўны вынік аднадзённага візіту — падпісанне некалькіх важных дакументаў, якія рэгулююць двухбаковыя гаспадарчыя, культурныя, навукова-тэхнічныя адносіны паміж дзяржавамі-суседзямі.**

**У ходзе перамоваў былі ўзняты таксама пытанні, звязаныя з маркуемым візітам у Беларусь прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы, аб канцэнтрацыі ваенных сіл на беларуска-польскай граніцы.**

**— Узводзімы намі мост «Польшча — Беларусь», — адзначыла Ханна Сухоцка, — зблізіць два суседнія народы, злучыць Усход з Захадам і наадварот.**

**Адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Польшчы Ханны Сухоцкай са старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перамоваў Х. СУХОЦКАЙ і В. КЕБІЧА.**

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

## БУДЗЕМ МЕЦЬ СВАЕ ПАСОЛЬСТВЫ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Генадзь Бураўкін і Надзвычайны Паўнамоцны Пасол, пастаянны прадстаўнік Аргенцінскай Рэспублікі пры ААН Хорхе Васкес падпісалі пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма дзяржавамі.

Да канца 1992 года павінны быць адкрыты пасольствы Беларусі ў 14 дзяржавах: Расіі, Украіне, Германіі, Аўстрыі, Францыі, Бельгіі, Італіі, Швейцарыі, Швецыі, Кітаі, Індыі, Казахстане, Латвіі і Літве.

СУМЕСНЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

## НА АДНАГО З СОШКАЙ

Камітэт па знешнеэканамічных сувязях паведаміў, што ў Беларусі зарэгістравана 650 сумесных прадпрыемстваў, каля 400 з якіх «нарадзіліся» толькі ў гэтым годзе. Сярод краін-удзельніц у стварэнні СП лідзіруюць Польшча, Германія і ЗША. Напрыклад, польскія прадпрымальнікі дзеляць устаўны капітал у 370 СП, амерыканскія — у 44. Аднак многія прадпрыемствы яшчэ не пачалі работу. Калі, згодна са статыстыкай 1991 года, дзеючымі лічыліся толькі 33 працэнты СП, то сёлета — яшчэ менш. І ў той жа час толькі адно прадпрыемства выключана з рэгістрацыйнага рэестра, а штотыднёва рэгіструюцца 3—4 СП.

ЗАСНАВАНЫ У НАВАГРУДКУ

## ФОНД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Беларускі фонд Адама Міцкевіча створаны на ўстаноўчым сходзе, які адбыўся на яго радзіме — у Навагрудку.

Заснавальнікамі фонду сталі прадстаўнікі культуры, навукі, грамадскія дзеячы не толькі нашай рэспублікі, але і іх калегі з Польшчы. Сродкі фонду, а яго праўленне ўзначаліў паэт і вучоны Алег Лойка, будуць выкарыстоўвацца для прапаганды творчай спадчыны класіка польскай літаратуры і на мерапрыемствы, прысвечаныя 200-годдзю паэта. Юбілей Міцкевіча будзе адзначацца ў 1998 годзе.

НА ІТАЛЬЯНСКАЙ СЦЭНЕ

## ПРЫЗ СІМПАТЫЙ

Іван Шупеніч, выпускнік мінскай кансерваторыі, атрымаў трэцюю прэмію і званне лаўрэата, а таксама прыз глядацкіх сімпатый прэстыжнага конкурсу імя славутага італьянскага спевака Беньяміна Джылы. Ужо трэці год займаецца ў Акадэміі оперных і харавых спевакоў у італьянскім горадзе Озіма беларускі спявак. У Мінску, у тэатры оперы і балета, ён стварыў вобразы Ленскага («Яўгеній Анегін»), Таміна («Чароўная флейта») і іншыя.

Пасля вучобы ў Італіі спявак мяркуе вярнуцца ў Беларусь.

ЭКАНОМІМ

## ЗІМУ ПЕРАЖЫЦЬ

Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне ўвесці ў дзеянне сістэму вечернага адключэння святла.

Да красавіка наступнага года будзе «адпачываць» уся рэкламная падсветка ў горадзе. Выключэнне зроблена для нацыянальнага флага, які асвятляецца над Домам урада, і для абеліска Перамогі. Прапанова на 50 працэнтаў скараціць вулічнае асвятленне не знайшла падтрымкі ў гарадскіх улад. А вось тэмпература гарачай вады ў кватэрах мінчан цяпер не будзе перавышаць 50 градусаў.

НОВЫЯ ПРЫБОРЫ



**Новыя прынцыпы і метады рэгістрацыі светлавога выпраменьвання, аж да мізэрна малых патокаў інтэнсіўнасцю да аднаго кванта ў секунду, прапанавалі беларускія вучоныя. Распрацаваны і выраблены адпаведныя прыборы і створаны метады камп'ютэрнай апрацоўкі інфармацыі.**

**15 гадоў ішлі да сённяшніх вынікаў супрацоўнікі Белдзяржуніверсітэта і Інстытута электронікі АН рэспублікі. Іх сумесная работа «Даследаванне, распрацоўка і стварэнне метадаў і шырокадыяпазонных сістэм фотаметрыравання аптычных палёў» выстаўлена на атрыманне Дзяржпрэміі Беларусі.**

**Створаныя вучонымі прыборы знайшлі прымяненне ў астрафізіцы, ядзернай фізіцы, оптыцы, электроніцы, тэхналогіі вытворчасці мікрасхем і ў многіх іншых галінах навукі і тэхнікі. З'яўленне новай апаратуры, зусім «раўнадушнай» да перашкод і здольнай улоўліваць крайне слабыя сігналы, зрабіла ў касмічнай навігацыі сапраўдны пераварот. Укараненне вынікаў даследаванняў на двух дзесятках заводаў і навуковых цэнтраў ужо прынесла мільёны рублёў эканоміі. Серыйна асвоеная прадпрыемствамі рэспублікі, новая прадукцыя можа стаць і важнай крыніцай экспарту, бо аналагаў падобных сістэм кантролю навакольнага асяроддзя няма.**

**НА ЗДЫМКУ: у аддзеле электроннай спектраскапіі і спектраметрыі Інстытута электронікі АН рэспублікі праводзяцца даследаванні паўправадніковых матэрыялаў з дапамогай метаду рэнтгенаўскай фотаэлектроннай спектраскапіі.**

МІЖ НАМІ, СУСЕДЗЯМІ

## АДУКАЦЫЙНЫЯ СУВЯЗІ

Згодна з дагаворам паміж Польшчай і Беларуссю аб адукацыйных сувязях, у ВНУ Польшчы займаецца каля 500 чалавек — выхадцаў з Беларусі, у нас — 50 польскіх беларусаў. Каля 100 настаўнікаў з Беларусі сёлета Польшча прыняла для павышэння іх кваліфікацыі, з Польшчы ў нас пабывала толькі 20 настаўнікаў-беларусаў. Пакуль што не хапае прамых сувязей паміж навучальнымі ўстановамі, дагаворы аб супрацоўніцтве маюць толькі Акадэміі навук.

ПАМЯЦЬ

## ЁН ЛЮБІЎ ПАЛЕССЕ

У Брэсце на доме па вуліцы Маскоўскай была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар паэта Міхася Рудкоўскага. У гэтым доме Міхась Міхайлавіч жыў з 1976 па 1991 год. Ураджэнец вёскі Востраў Ганцавіцкага раёна, ён усё жыццё пісаў вершы, поўныя любові да Палескага краю, да сваёй Брэстчыны. Сваё апошняе супакаенне паэт знайшоў у роднай вёсцы, хоць і многа гадоў жыў у Брэсце.

Пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі добрае слова пра паэта сказаў брэсцкі крытык і літаратар Уладзімір Калеснік. Паэт Мікола Пракаповіч прачытаў вершы. Сродкі для мемарыяльнага знака выдзелены з гарадскога бюджэту.

ЗВАНЫ ТРЫВОГІ

## СПЫНІЦЬ РУСІФІКАЦЫЮ

Такую, трохі нечаканую назву мае пастанова мінскай гарадской канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якая адбылася ў кастрычніку 1992 года.

Канферэнцыяй адзначана, што за тры гады, якія прайшлі з часу прыняцця Закона аб мовах, стаўленне да беларускай мовы мяняецца да лепшага. Больш 50 працэнтаў мінскіх першакласнікаў вучацца на роднай мове, уведзены ўступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры на ўсе факультэты вышэйшых навучальных устаноў, у тэхнікумах і вучылішчах, падрыхтаваны ці рыхтуюцца да друку тэрміналагічныя слоўнікі, падручнікі і іншыя дапаможнікі. Можна канстатаваць, што ўжо мала хто асмельваецца адкрыта прапагандаваць нацыянальны нігілізм, хаця працэсы, звязаныя з адраджэннем, фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці пастаянна натыкаюцца на рознага роду перашкоды, недарэчнасці, «часам неразуменне важнасці задач, якія стаяць перад насельніцтвам Беларусі ў пошуках свайго адметнага шляху нацыянальнага духоўнага стаўлення».

Канферэнцыя выказала трывогу, выкліканую масіраванай прапагандай супраць адраджэння беларускай нацыі і асудзіла пазіцыю Вярхоўнага Савета і ўрада да кампаніі русіфікацыі і асіміляцыі беларусаў, назваўшы яе пасіўнай і абыякавай. Была асуджана сама ідэя ўвядзення дзвюх дзяржаўных моў — беларускай і рускай. «Двухмоўе ў монанацыянальнай Беларусі, — адзначаецца ў пастанове канферэнцыі, — мы разглядаем як палітыку русіфікацыі і асіміляцыі, знішчэння беларускай нацыі. Нацыянальная мова — аснова адзінства нацыі».

І можа як адказ варта лічыць сказаныя на мінулым тыдні словы старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча, які заявіў, што зробіць усё, каб не дапусціць у Беларусі ўзаконенага дзяржаўнага двухмоўя. За заклікам надаць рускай мове статус дзяржаўнай, сказаў С. Шушкевіч, ён бачыць звычайную ляноту і няздольнасць вывучыць беларускую мову.

У высакароднай справе нацыянальнага Адраджэння вельмі многа зроблена самаахвярнай працай настаўнікаў, якія выкладаюць у школе беларускую мову і літаратуру, іншыя прадметы, свядомых кіраўнікоў школ, што ў надзвычай неспрыяльных умовах, часцей за ўсё без падтрымкі з боку некаторых дзяржаўных структур, маюць значныя дасягненні. Бо менавіта са школы і нават яшчэ раней — з дзіцячага садзіка пачынаецца выхаванне новага свядомага грамадзяніна.

Канферэнцыя заклікала беларускіх пісьменнікаў, кіраўніцтва Акадэміі навук Беларусі і наогул усіх вучоных больш актыўна далучацца да гэтага працэсу, асэнсаваць асабістую гістарычную адказнасць за захаванне і развіццё нацыянальнай культуры.

У дакуменце канферэнцыі ёсць канкрэтныя прапановы да адпаведных структур, ад якіх залежыць хутчэйшае ажыццяўленне Закона аб мовах у краіне, у яе сталіцы. Вярхоўны Савет і Савет Міністраў РБ павінны помніць, што прамаруджванне альбо нават запавольванне ў выкананні Дзяржаўнай праграмы можа згубна адбіцца на маральным здароўі грамадства, падарваць давер у дзеяздольнасці органаў законатворчасці і выканаўчых улад.

Ад Вярхоўнага Савета і ўрада канферэнцыя патрабуе правядзення дзяржаўнай палітыкі па абароне ад русіфікацыі. «З мэтай вяртання беларусам роднай мовы і выхавання нацыянальнай свядомасці з 1 студзеня 1993 года перавесці газеты на дзяржаўную мову. Дзеля размеркавання фондаў паперы, зменшыць тыражы газет замежных краін, якія друкуюцца на паліграфічных магутнасцях Беларусі. Дзяржава павінна выхоўваць, фарміраваць, развіваць моўнае нацыянальнае асяроддзе як аснову для гарманічнага развіцця грамадства».

Улічваючы міжнародныя нормы, кіраўнікі нашай дзяржавы ў час выканання службовых абавязкаў павінны карыстацца толькі дзяржаўнай мовай нашай краіны. Зноў да Вярхоўнага Савета накіравана просьба разгледзець пытанне аб вяртанні нашай сталіцы яе гістарычнага наймення — Менск. У прапановах да Міністэрства адукацыі Беларусі выказваецца пажаданне, каб выкладчыкі ВНУ, тэхнікумаў, школ абавязкова валодалі беларускай мовай. Канферэнцыя лічыць мэтазгодным надаць рускай мове статус замежнай.

ДЗІЦЯЧЫ САНАТОРЫЙ

**Новы дзіцячы санаторый «Сонейка» на 500 месцаў неўзабаве вырасце ў Слуцкім раёне на маляўнічым беразе возера Рудня. Тут будуць праходзіць аздараўленне і курс лячэння дзеці, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. У комплекс новай здраўніцы ўваходзяць чатыры спальныя карпусы, лячэбны блок, школа, глядзельная і спартыўная залы, басейн, фае—зімні сад. Цяпер у інстытуце «Белпраект» заканчваецца распрацоўка праекта санаторыя. У рэалізацыі праграмы будаўніцтва ўдзельнічаюць камісія Вярхоўнага Савета па праблемах чарнобыльскай катастрофы, саюз «Чарнобыль» Беларусі, міжнародны саюз «Чарнобыль», рэспубліканскае аб'яднанне «Б е л міжкалгасздраўніца», таварыства Чырвонага Крыжа рэспублікі. Ужо пачата будаўніцтва гаспадарчай зоны. Увод комплексу плануецца ў 1994 годзе. Узвядзенне асноўных будынкаў і пастаўку абсталявання намечана ажыццявіць з дапамогай нямецкіх фірм.**



**НА ЗДЫМКУ: галоўны архітэктар праекта Анатоль ШАБАЛІН і кіраўнік групы архітэктараў Вячаслаў ДАНІЛАЎ (злева) ля макета будучага санаторыя.**

## ЖАБРАЦТВА: АД ГРАМАДЗЯНІНА ДА ДЗЯРЖАВЫ

# ЖЫВУЧЫ НА ЦВІНТАРЫ, УСІХ НЕ АПЛАЧАШ

Калі я бачу жабрака, у мяне сціскаецца сэрца. Я чамусьці адчуваю сябе вінаватай у тым, што ён сядзіць на асфальце ці каменных прыступках падземнага пераходу і абыякава глядзіць, як у яго шапку ці бляшанку падаюць капейкі і рублі. Нібы адкупляючыся ад сумлення, я дадаю свой скамечаны трояк і іду далей. Але, уласна кажучы, у чым я перад імі вінаватая? А сэрца ўсё роўна баліць.

За апошні час амаль ні адна буйная газета не абышла сваёй увагай тэму жабракоў. Але чамусьці з усіх праблем, якія паўстаюць за згорбленай постаццю з працягнутай рукой, журналісты разгледзелі толькі адну—фінансавую. Мы ўжо добра ведаем, на якія катэгорыі падзяляецца шматлікая армія ўбогіх, колькі зарабляюць яны ў дзень і тыдзень, што лепш пісаць на аркушы паперы, пачэпленым на грудзях, ці гаварыць, каб больш давалі, і калі з розумам узяцца за справу, то хутка можна будзе прыязджаць на месца збору міласціны на ўласнай белай «Волзе».

Неяк і гаварыць няёмка, што лічыць чужыя грошы заўсёды было непрыстойна. Лічыць жа грошы жабрака—увогуле кашчунства. Мы можам даваць яму міласціну ці не, гэта справа нашага сумлення, але абмяркоўваць даходы тых, хто стаіць з працягнутай рукой не адпавядае чалавечай годнасці.

Хачу адразу сказаць: у мяне і ў думках няма ідэалізаваць усіх жабракоў. Тыдзень таму сама дала грошы сляпому ранкам у царкве, а вечарам таго ж дня была ашаломлена, калі сустрэла яго ля ўваходу ў кафэ на цэнтральнай вуліцы горада. Збянтэжыла мяне не тое, што ён вырашыў павячэраць там, дзе адна трапеза будзе каштаваць больш за сто рублёў, здзівіла перамена, якая адбылася ў ім. Убогі брудны чалавек выпрастаўся і прыняў самавітую паставу, «сляпыя» вочы былі прыкрыты элегантнымі цёмнымі акулярамі, модная кашуля і джынсы змянілі неахайныя лахманы. Але больш за ўсё здзіўляў невялічкі модны плэер. Не ведаю, ці паверыце вы мне, але ні тады, ні зараз мне не было шкада сваіх грошай, бо даём мы іх часцей за ўсё не дзеля тых, хто просіць, а дзеля сябе, і гэтыя некалькі рублёў дазваляюць нам заставацца ў згодзе са сваім сумленнем. Хай іх судзіць Бог, а мы будзем удзячныя за тое, што ўсяго за тры рублі яны даюць нам магчымасць адчуць уласнае высакародства. Ды і нягледзячы на тое, што заробкі жабракоў (па звестках прэсы) за дзень вышэйшыя, чым у некаторых з нас за месяц, нешта не кідаюцца ўсе запар займаць месцы ў падземных пераходах. Дарэчы, самае простае: запытайцеся ў сябе, ці зможаце вы заўтра выйсці на вуліцу з працягнутай рукой? Ды ніколі, адкажа большасць з нас. Лепш памру...

Думаю, што нецвярозы стары з ордэнскімі калодкамі на пінжаку, у салдацкую пілотку якога сёння на Камароўцы людзі клалі грошы, трыццаць гадоў таму адказаў бы гэтак жа...

Згодна, і тут, як і ў любой справе ёсць «таленты», якія кленчаць па прызванню. Але давайце падумаем пра тых, каму для таго каб працягнуць руку, давялося пераступіць праз гонар, годнасць, гордасць. Адкуль мы ведаем, што яны перажылі, перш чым адважыліся на гэта? Жабрацтва—гэта ж не толькі недахоп ці адсутнасць грошай, гэта яшчэ і здольнасць ці няздольнасць перайсці нябачную мяжу. Быццам і патрэбна зусім нямнога—працягнуць руку, але, зрабіўшы гэты жэст, ты ўжо назаўсёды становішся іншым чалавекам. І хто ведае, якая трагедыя можа за гэтым стаяць. І хіба было б лепш, калі б ён пайшоў красці, каб набыць тыя ж грошы? Мы ж працягваем судзіць хутка і бескампрамісна...

Так, мы ніколі не былі багатымі людзьмі. Дакладней, заўсёды былі беднымі. Але ж якіх-небудзь шэсць—сем гадоў таму жабракоў на вуліцах было менш яшчэ і з-за таго, што стары ці інвалід мог пражыць і на невялікую пенсію. Ды і нашай зарплаты не толькі на харч хапала...

Жабрацтва з'явілася не сёння, і, напэўна, узрост яго вымяраецца ўзростам чалавечага грамадства. У былыя часы жабракоў пад сваю ахову—ці то маральную, ці матэрыяльную—брала царква. У апошні час мы спрабуем адрадзіць адвечныя традыцыі хрысціянства. І калі знянацку ўсе сталі такімі вернікамі, што хутка нават камерцыйны кіёск не адкрыецца без благаславення царквы, а святары ледзь паспяваюць пырскаць святой вадой і на караблі на рэйдзе, і на трактары на канвееры, давайце успомнім, што наконт жабракоў і міласціны гаворыць царква, якая некалі несла на сабе функцыю ўпарадкавання грамадскага жыцця.

Не папрашайку абарванага і бруднага, не падманшчыка ці акцёра заклікае царква бачыць у жабраку, а самога Госпада, які чакае, дасі ты яму міласціну,



ці пройдзеш міма, зрабіўшы выгляд, што не заўважыў чужой бяды. І не трэба думаць, на што будуць выкарыстаны твае грошы, таму што Бог кожнага судзіць па яго справах, а не па чужых. Не забываўся і той, хто не абыходзіць сваёй увагай хворых, няшчасных, убогіх (дарэчы, сама этымалогія гэтага слова: у-богі—той, што побач з Богам знаходзіцца, указвае на адносіны да гэтых людзей). Хаця б і малой міласцінай даруюцца многія, нават смяротныя грахі, бо той, хто дае, прыпадабняецца да самога Бога, які ахвяраваў свайго адзінага сына, каб выкупіць грахі, што паспелі нарабіць людзі ў сваім зямным жыцці.

Вось такая, як кажуць зараз, пазіцыя. А калі гаварыць прасцей: хочаш быць багатым—будзь шчодрым.

Ізноў успомнілася даўняя публікацыя ў рэспубліканскай газеце пра жабрачку-цыганку, якая кленчыла ў падземным пераходзе. Уважлівы карэспандэнт разгледзеў пры гэтым, што на ёй былі цэлыя, недзіравыя калготкі... Нас насцярожваюць нашы жабракі? Мы не давяраем ім, яны падаюцца нам несапраўднымі. Ішлі б лепш працаваць, а не прасіць, з раздражненнем думаем, а часам і гаворым ім мы. Дык і замежныя ахвяравальнікі, што падкормліваюць нас каўбасным фаршам ці шакаладам, таксама, напэўна, губляюцца ў здагадках: велізарная краіна, найбагацейшыя рэсурсы, працаздольныя людзі... А ўрад бадзяецца па іншых краінах і кленчыць дапамогу. Яны што, з такімі магчымасцямі, самі пракарміцца не могуць?

Ды і праўда, ці варта нам быць такімі прынцыповымі. Усе мы пастаўлены ва ўмовы, калі краіна наша, некалі адна са звышдзяржаў, разгубленая і вартая жалю, стаіць зараз з працягнутай рукой. І кладуць у яе, і кладуць, і ўжо не «драўляныя рублі», а паўнаважкія долары, а яны—як у прорву... Але нам пакуль што яшчэ дапамагаюць, пры гэтым яшчэ і назвы міласціне прыгожыя прыдумваюць, каб прымаць яе было не так сорамна: «доўгатэрміновыя крэдыты», «гуманітарная дапамога». Ну зразумела ж, што не ваенная...

Калі я ўпершыню пачула пра распродаж адзення second hand, то спачатку нават не зразумела, пра што ідзе гаворка. Потым дайшло: нам прапануюць купіць звычайнае ношанае барахло з чужога пляча. Але гэта, па-нашаму, неінтэлігентна. А вось second hand — як пароль, як іншаземная песня для нашага вуха. У былыя часіны так багатыя пані ў знак сімпатыі дарылі пакаёўкам свае паношаныя сукенкі. Ну што ж, нам яшчэ раз панскай рукой указалі на наша месца, а мы руку тую злавілі і з падзякай цмокнулі.

У апошні час акрамя дапамогі рэчамі і грашыма (пра якую, дарэчы, звычайныя людзі толькі па радыё чулі і ў камерцыйных кіёсках яе бачылі) з'явіўся яшчэ адзін спосаб нашага «выратавання». Я б назвала яго «духоўнай міласцінай». Ветлівыя маладыя людзі з добразычлівымі ўсмешкамі ў метро ці на вуліцах бясплатна раздаюць усім жадаючым лістоўкі ці кніжкі са зваротамі розных рэлігійных канфесій свету да нашых сэрцаў. Быццам бы і справа высакародная робіцца, і дзякуй трэба сказаць за тое, што нашы душы нехта выратоўвае, але нешта ў гэтым усім насцярожвае. Мабыць, аператар з відэакамерай, аб'ектыў якой здаля пільна сочыць за тым, як нам робяць падарункі, а дакладней, зноў даюць на беднасць нашу, толькі ўжо духоўную? Дарэчы, ці не сказана ў свяшчэнным пісанні пра тое, што добрую справу трэба рабіць так, каб правая рука не ведала, што робіць левая? І чаму маю зямлю, якая некалі нарадзіла святога Кірылу Тураўскага і Прападобную Ефрасінню Полацкую, зараз перахрышчваюць у невядомую веру амерыканскія, польскія, нямецкія святары?! (І відаць, не выпадкова з'явіўся тут замежны аператар, мусіць, чакаў ён убачыць нешта накшталт тых сцэн, якія адбываліся падчас раздачы гуманітарнай дапамогі, калі людзі біліся за тое ж паношанае адзенне і вырывалі адзін у аднаго бляшанкі з нечым невядомым, але прывабным на выгляд. З голаду ж не паміралі тыя, хто ішоў на таран замежных фургонаў...)

Можна, вядома, адгарадзіцца ад гэтай духоўнай экспансіі і паспрабаваць жыць сваім жыццём, незалежным ад іншаземных падачак. Але кожны вечар з экрана тэлевізара ці старонак газет б'ецца ў сэрца чыйсьці боль:

«Добрыя людзі, адгукніцеся! Трэба грошы для лячэння за мяжой!» «Выратуйце маё дзіця!..» «Патрэбна валюта...» Таксама просяць... жабракі ў жабракоў І якім бы добрым ні быў, усім не дапаможаш, бо чым маё багацце ад іхняга адрозніваецца? Людзі пастаўлены дзяржавай у зневажальнае становішча, калі яны вымушаны прасіць. Любую галечу можна перанесці, голад і холад. Але калі бяда кранае тваё дзіця, тут любы на калені стане.

У апошні час жабракоў становіцца ўсё больш, а грошай у людзей усё менш. І добра разумееш, што ў жабрацкай краіне багацце аднаго—гэта абавязкова збядненне другога, і ўсё больш непрыкметнай робіцца мяжа паміж тымі, хто просіць, і тымі, хто дае. Але ж мы так прывыклі да таго, што мы — калектыў, вялікая гістарычная супольнасць, непарушны блок ці садружнасць, што зараз ніяк не можам навучыцца бачыць у чалавеку асобу з яе ўласнымі адносінамі да жыцця, невядомымі нам, часам жахлівымі праблемамі і незразумелымі нам падыходамі да іх вырашэння. А нам бы ўспомніць, што мудры народ з даўна-давён перасцерагаў: ад турмы і ад торбы жабрака не заракацца. Сёння гэта, як ніколі, актуальна.

Як гаварыў Салжаніцын, «жывучы на цвінтары, усіх не аплачаш». Але ж для таго каб адчуваць сябе чалавекам, трэба памятаць, што заўсёды ёсць нехта, каму горш за цябе і ты можаш яму дапамагчы. І ў першую чаргу гэта патрэбна нам самім, каб людзьмі пачувацца.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ




**Не так даўно плошча Незалежнасці насіла імя Леніна і была самай афіцыйнай у горадзе. Сёння яе можна лічыць, бадай, самым нефармальным месцам сталіцы СНД. Якія акцыі тут толькі ні праводзіліся, якія лозунгі ні чуліся, якія патрабаванні ні гучалі! Здаецца, калі б яшчэ некалькі год таму сабраўся натоўп людзей, прыехала б міліцыя, а можа, і хто яшчэ сур'ёзней... А сёння — мітынгуйце, патрабуйце, галадайце—або, наадварот, ешце, як гэтыя студэнты, якія вырашылі такім незвычайным чынам адзначыць Усесаюзныя дні фізіка, — можа вас хто і ўбачыць, як наш уважлівы фатограф, а можа, пройдуць міма, так і не падняўшы вачэй.**
**Абыякавасць — таксама рыса сённяшняй незалежнасці...**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ГУЛЬНЯ ДЛЯ КАМЕРСАНТАЎ

У Мінскікм Доме культуры імя Кісялёва сумеснае беларуска - польскае прадпрыемства «Білард» адкрыла нешта накшталт клуба для багатых. Уваход сюды каштуе 400 рублёў. За такую суму кліенты маюць права на чатыры гульні ў «пул». Увайшоўшы ў азарт, вядома, можна патраціць значна большую суму.

Да більярднага клуба, які адчынены з 6-ці гадзін вечара да 5-ці раніцы, пад'язджаюць у асноўным джэнтльмены на машынах замежных марак — камерсанты, дыпламаты, біржавікі, людзі, якія маюць грошы і могуць выдаткаваць іх дзеля ўласнай уцехі. Вядома, за гульнёй у «пул» вельмі зручна весці дзелавыя размовы, заключаць здзелкі.

## ЯКІМІ БАЧАЦЬ НАС ЧУЖАЗЕМЦЫ

# ДЗЯРЖАВА БАГАЦЕЕ, АДНО КАЛІ МЫ СПІМ

**Падчас побыту аргенцінскай дэлегацыі ў таварыстве «Радзіма», пра што мы паведамлялі ў папярэднім нумары «ГР», наш карэспандэнт Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ гутарыў з яе кіраўніком, мэрам горада Авера Мігелем АЛІВЕРАСАМ і начальнікам упраўлення мэрыі па справах культуры Эдуардам МАРАЛЕСАМ. Размова доўжылася некалькі гадзін і тычылася самых розных аспектаў жыцця аргенцінскага і беларускага народаў. Прапануем нашаму чытачу некаторыя яе моманты.**

**КАРЭСПАНДЭНТ.** Будуючы незалежную дзяржаву, мы найперш прымаем за ўзор вопыт багатых краін Захаду і Старога Свету. І амаль што не звяртаем увагі на багаж, нажыты і выпакутаваны «трэцім светам». А ў нас ёсць шмат чаго агульнага. Вось я высветліў, што і ў гаспадарцы Аргенціны мае месца прыватызацыя. Аб гэтай «сеньёры» столькі ў нас гаворыцца, столькі спрэчак ідзе. Так яна сябе, прабачце, непрыстойна паводзіць, нават не атрымаўшы яшчэ законнага дазволу на існаванне... Што можа прыватызаваць, скажам, радавы аргенцінец?

**М. АЛІВЕРАС.** Ён мае права прыватызаваць толькі самае нязначнае і нерэнтабельнае — дробныя прадпрыемствы пераважна ў сферы сэрвіснага прызначэння. А такія важныя, нацыянальныя галіны, як чыгунка і тэлефонная сувязь, прадаюцца замежным прадпрымальнікам. Дэнацыяналізацыя, прыватызацыя прынеслі простаму люду яшчэ большае, чымсьці ён меў дагэтуль, беспрацоўе. Сёння шукае работу амаль што адна трэць працаздольнага насельніцтва. Дадайце інфляцыю, крызіс. Сярэдні заробак панізіўся да 300 долараў у месяц, а цэны пастаянна павышаюцца. Неверагоднага размаху дасягнула карупцыя. Я заўжды гавару так: дзяржава багацее адно ўначы, калі мы спім, бо як толькі прачынаемся, адразу пачынаем яе абкрадваць.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** Вось у гэтым ваша перавага. Таму што ў нас — бяссонніца, мы крадзём і ноччу...

**Э. МАРАЛЕС.** Агульнае, вядома, ёсць. Аднак розніца — у галоўным: якую мэту вы ставіце перад прыватызацыяй, а якую мы. Вы плануеце перайсці ў зусім інакшую для вас сацыяльна-палітычную і эканамічную сістэму. Мы ў межах старой хочам прыватызаваць тое, што для дзяржавы нявыгадна.

**М. АЛІВЕРАС.** Я не збіраюся даваць вам рэцэпты, вы іх адшукаеце самі. Але, аналізуючы наш вопыт, пры нагодзе не абмініце і іншы фактар. Маю на ўвазе знешнюю запазычанасць Аргенціны банкам-крэдыторам Міжнароднага валютнага фонду. Калі гадоў пятнаццаць таму запазычанасць была адносна невялікая, то цяпер яна дасягнула 60 мільярдаў. Мы ледзьве здольны рабіць выплаты па працэнтах і паслугах.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** У нас часамі пануе зусім іншае меркаванне. Членства ў фондзе падаецца як ці не галоўны сродак выхаду з крызіснага становішча, як вялікая дапамога.

**М. АЛІВЕРАС.** Разумееце, фонд — не дабрачынная арганізацыя. Такая дапамога для яго з'яўляецца не чым іншым, як прыбытковым бізнесам. Гэта выдатны спосаб зарабляць каласальныя грошы: адной рукой дае пазыку, другой спаганяе кабальныя працэнты, якія не здолеюць выплаціць і нашы дзеці. Што да Аргенціны, дык вытокі залежнасці ад замежнага капіталу цягнуцца аж з канца мінулага стагоддзя, а вы ж пачынаеце пісаць першыя радкі. Маеце час падумаць.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** Праўдападобна, што паміж слабаразвітымі і багатымі краінамі пралягае і робіцца ўсё больш выразнай мяжа супрацьстаяння. Але ў вашых словах гучыць і пэўная крытыка эканамічнай палітыкі і аргенцінскага ўрада...

**М. АЛІВЕРАС.** Я належу да партыі Грамадзянскі радыкальны саюз, старшыня якога Рауль Альфансін раней займаў пасаду прэзідэнта рэспублікі. А цяпер улада знаходзіцца ў руках партыі пераністаў і прэзідэнцтва належыць яе лідэру Менэму. Мы, апазіцыя, выступаем супраць некаторых пунктаў эканамічнай палітыкі перaністаў, вядзём барацьбу палітычнымі, канстытуцыйнымі метадамі. Але і супрацоўнічаем, бо гэтага вымагаюць рэаліі палітычнай сістэмы. Напрыклад, губернатар нашай правінцыі — пераніст, аднак мы імкнёмся да канструктыўнай працы з ім.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** Адной з «болевых кропак» у дзяржаўным будаўніцтве на Беларусі выглядаюць механізмы і прынцыпы ўзаемадзеяння і функцыяніравання мясцовых і рэспубліканскіх органаў, парадак падпарадкавання. Шмат дыскусій вядзецца наконт тыпу гэтай будовы. Будзе яна парламенцкай рэспублікай, уводзіць ці не інстытут прэзідэнцтва і г. д.. Як працуе палітычная сістэма ў Аргенціне?

**М. АЛІВЕРАС.** Аргенціна — федэратыўная рэспубліка. Народ выбірае прэзідэнта, які прызначае ўрад — міністраў і дзяржаўных сакратароў. Заканадаўчая ўлада належыць Нацыянальнаму кангрэсу, у які ўваходзяць палата дэпутатаў і сенат. Кожная з дваццаці дзвюх правінцый — аўтаномнае ўтварэнне, якое мае ўласныя органы самакіравання. Губернатара выбіраюць жыхары правінцыі, а ён фарміруе мясцовы ўрад. Па аналагічнай схеме будуецца іерархічная лесвіца і муніцыпалітэта. І ніхто зверху не мае права ўмешвацца ў муніцыпальныя справы. Канешне, цэнтралізаваным парадкам дзяржава выдзяляе нам асігнаванні на сацыяльныя праграмы, адукацыю, ахову здароўя.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** І колькі працэнтаў ідзе, напрыклад, на адукацыю?

**Э. МАРАЛЕС.** 2,4 працэнта.

**КАРЭСПАНДЭНТ.** А на культуру?

**Э. МАРАЛЕС.** Нічога...

**М. АЛІВЕРАС.** Мы самі клапоцімся, самі знаходзім сродкі на культурныя патрэбы. Заўжды маем магчымасць дапамагчы дзесяткам нацыянальных імігранцкіх таварыстваў: польскаму, нямецкаму, іспанскаму, рускаму і г. д. Кожны год у верасні святкуем Дзень імігранта, ладзім сапраўдную фіесту, дэманстрацыю песеннага, танцавальнага, кулінарнага майстэрства прадстаўнікоў амаль што сарака нацыянальнасцей, якія жывуць у нашым муніцыпалітэце.

**Э. МАРАЛЕС.** Вы нам расказвалі аб праблемах нацыянальнага адраджэння, мовы, культуры на Беларусі. І тут таксама мажліва правесці паралель паміж намі. Фарміраванне аргенцінскай нацыі далёка не завершана. Па гістарычных мерках, яна вельмі маладая. Паток эмігрантаў, які хлынуў у Аргенціну, паглынуў самабытнасць нешматлікіх плямён індзейцаў. Зусім іншая рэч Бразілія, Гватэмала... Нам таксама трэба працаваць і працаваць у галіне культуры.

**М. АЛІВЕРАС.** Хочаце, пакажу вам практычнае, нават матэматычнае абгрунтаванне неабходнасці прыватнай уласнасці, прыватызацыі? Мы, седзячы за гэтым столікам, заказалі тры кубачкі кавы. Нам прынеслі тры маленькія і тры вялікія... Усяго, думаю, набралася дзевяць... за якія мы і заплацілі. Зразумела, афіцыянты бачаць, што мы — іншаземцы, і вырашылі завысіць кошт. Такім чынам, горшай антырэкламы цяжка сабе ўявіць. А калі б гэта быў прыватны рэстаран, там такога ніхто ніколі не дазволіў бы. І абслугоўванне было б зусім іншым.

Як бы ні было, я жадаю беларусам, вашаму прыгожаму гораду з такімі на зайздрасць шырокімі, прасторнымі вуліцамі і тратуарамі поспехаў у дэмакратычных пераўтварэннях.

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# БЕЛАРУСКІЯ ЦЭРКВЫ НА ЭМІГРАЦЫІ

Большасьць Беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне, гэта вернікі Праваслаўнае Царквы. Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы налічвае зараз 10 епархіяў. Беларусы, якія жывуць у межах Польшчы, належаць да Польскай Праваслаўнай Царквы. Шмат Беларусаў на Бацькаўшчыне ёсьць вернікамі Каталіцкай і Уніяцкай Цэркваў.

На эміграцыі дзейнічаюць тры Беларускія Цэрквы, розных юрысдыкцый і статусаў. Напачатку трэба прадставіць групу беларускіх праваслаўных прыходаў, падпарадкаваных юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха. Беларусы не маюць там свайго Біскупа.

Адміністратарам беларускіх прыходаў ёсьць Архіяпіскап Яковос, назначаны Грэцкаю Праваслаўнаю Царквою як Уладыка на Паўночную і Паўднёвую Амэрыку. Беларуская Царкоўная Грамада ў гэтай юрысдыкцыі складаецца з чатырох прыходаў у Амэрыцы (ЗША) і аднаго ў Канадзе.

Другою Праваслаўнаю Царквою, якой вернікі гуртуюцца з Беларусаў, што ёсьць на эміграцыі, гэта Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Спробы яе пакліканьня былі ўжо ў 1922 годзе, аднак былі яны няўдалыя. На пакліканьне Беларускае Аўтакефальнае Царквы не дазволілі савецкія і польскія ўлады. У час нямецкай акупацыі на Беларусі нацысты, думаючы аб адарваньні беларусаў ад камуністычнай ідэалогіі, дазволілі на разьвіцьцё рэлігійнага жыцьця. Беларускія Уладыкі пакарысталіся з гэтай нагоды і ў 1942 годзе паклікалі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Гэты факт абазначаў стварэньне незалежнай царкоўнай структуры на беларускіх землях, незалежнай ад Рускай Праваслаўнай Царквы. Масква не пагадзілася з гэтым і абвінавaціла беларускіх Уладык у супрацоўніцтве з нямецкім акупантам. У сталінскія часы не было магчымасьці бараніць сваёй рацыі. Таму Біскупы са шматлікімі сьвятарамі выехалі на эміграцыю. У 1949 годзе яны аднавілі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву па-за межамі Бацькаўшчыны. Пасьля сьмерці ў 1970 годзе старшыні гэтай Царквы Архіяпіскапа Андрэя Крыта асталося 20 прыходаў у юрысдыкцыі двух Беларускіх Уладык. Мітрапаліт Мікалай (Мацюкевіч) узяў пад сваю ўладу прыходы ў Канадзе і ЗША, а мітрапаліт Ізаслаў (Бруцкі) — некаторыя прыходы ў ЗША, Аўстраліі і Вялікабрытаніі. На жаль, Беларуская Аўтакефальная Царква не ёсьць прызнаная іншымі Аўтакефальнымі і Аўтанамічнымі Цэрквамі. Апрача гэтых дзьвюх Праваслаўных Цэркваў дзейнічаюць у Беларускім Эміграцыйным асяроддзі Беларускія Каталіцкія прыходы візантыйскага абраду. Прыходы гэтыя працягваюць традыцыі парафіяў візантыйскага рыту з міжваеннага пэрыяду. На беларускіх землях у межах Другой Рэчы паспалітай было амаль 30 000 вернікаў нэауніяцкай Царквы. Сёньня на эміграцыі існуюць два прыходы: у Паўночнай Амэрыцы (Чыкага) і адзін у Вялікабрытаніі. Паводле апошніх даных, Беларуская Каталіцкая Царква візантыйскага абраду налічвае пару тысячаў вернікаў. Яе старшынёю ёсьць Апостальскі Візытатар для Беларусаў Католікаў, айцец Аляксандр Надсон, ведамы таксама як грамадзкі і навуковы дзеяч.

# ДАМІНІКАНСКІ КАСЦЁЛ У МІНСКУ

...На працягу гадоў на Цэнтральнай плошчы сталіцы ідзе будоўля вялізнай канструкцыі. Назва яе мянялася некалькі разоў. Нават гараджане сталі прымаць удзел у гэтай гульні: як толькі яе цяпер ні называюць: і «Маўзалей сацыялізму», і «Саркафаг III-га рэактару»... Трэба меркаваць, для народнай творчасці тут яшчэ будзе хапаць грунту шмат гадоў: і месца адметнае — самы цэнтр, і часу дастаткова будзе.

Але мала хто ведае, што месца, дзе так марудна ствараецца чарговы шэдэўр «развітога сацыялізму», грае асаблівую ролю ў гісторыі Мінска. Каля чатырох стагоддзяў таму на гэтым месцы стаяў першы цагляны касцёл гораду — помнік манументальнай архітэктуры ў стылі барока. Па некаторых крыніцах, будынак быў узведзены да 1615 году на сродкі, ахвяраваныя стольнікам Вялікага княства Літоўскага старастам Рэчыцкім Пятром Тышкевічам. Аднак існуе і іншая версія, больш, на думку навукоўцаў, праўдападобная. Яе прапанаваў гісторык дамініканцаў Акольскі, так прыпамінаецца і ў матэрыялах са збору Яўстафія Тышкевіча, зробленага разам з манахам чыну Мячкоўскім. Па іхніх звестках, фундацыя чыну святога Даменіка адбылася ў Мінску ў самым пачатку XVII стагоддзя пры актыўным садзейнічанні ўдавы інфлянцкага ваяводы Кшыштафа Служкі — Сафіі Служкавай (народжаная Завішанка).

Дакладная дата заснавання фундацыі невядомая, але бясспрэчна, што ў 1605 годзе ў Рыме на генеральнай капітуле дамініканскі чын пагадзіўся прыняць гэтую фундацыю ў сваё падпарадкаванне пад назовам канвенту Хфамы Аквінскага. Магчыма, у гэты самы час і была зроблена закладка будучага касцёлу і манастыру. Напачатку манахі-дамініканцы, што прыехалі ў Мінск, адпраўлялі багаслужбы ў драўлянай капліцы. Будаўніцтва ж каменных муроў рухалася зусім павольна, што, пэўна, тлумачыцца недахопам сродкаў. Становішча выправілася крыху пазней, пры дапамозе мясцовай шляхты. Яна вярталася з маскоўскага паходу і стварыла так званы «капытовы фонд», з якога і былі ахвяраваныя сродкі на будоўлю.

Аднак паступленне новых і, відаць, істотных сум не адыграла вызначальнай ролі для завяршэння будоўлі. Па сведчанню Акольскага, пачатыя муры падвергнуліся разбуральнаму пажару ўжо пасля 1615 году, пасля якога ўзводзімы будынак быў моцна пашкоджаны. Тады былі зроблены новыя ахвяраванні з боку Марцэлы Карэцкай, Якуба Пацэвіча, Андрэя Завішы, Івана Ваўка. Пры гэтым апошні фундуш прыпадае ўжо на 1640 год. Такім чынам працы працягваліся да 1655 году і былі перарваныя захопам і рабаваннем Мінску маскоўскімі войскамі, як таксама і страшэннаю эпідэміяю, якая цягнулася да 1658 году і знішчыла большую частку жыхароў гораду.

Паступовае адраджэнне гораду пачалося толькі пасля падпісання міру з Масквою ў 1664 годзе. Трэба меркаваць, менавіта ў гэтым тэрміне дамініканскі манастыр аформіўся канчаткова.

Адносна спакойнае жыццё манастыра было парушана напрыканцы XVIII стагоддзя, калі ў выніку падзелу Рэчы паспалітай Мінск увайшоў у склад Расейскай імперыі.

Палітыка выціскання каталіцтва і замены яго на праваслаўе — дзяржаўную рэлігію імперыі, што праводзілася царскім урадам з самага пачатку захопу беларускіх земляў і ўзмоцнілася пасля таго, як каталіцкае духавенства падтрымала вызваленчае паўстанне 1831 года, — закончылася для мінскага дамініканскага манастыра закрыццём. Гэта адбылося ў 1832 годзе, калі ён быў перададзены мясцовай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі. Ад 1869 году, пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, будынкі манастыра былі перададзены ва ўласнасць гарадскім уладам.

У часе II Сусветнай вайны комплекс дамініканскага манастыра вельмі пацярпеў, як і ўвесь горад Мінск. Па загаду ўладаў рэшткі былі разабраныя. Напрыканцы 70-х гадоў на тым месцы, дзе размяшчаўся манастыр, праводзіліся археалагічныя раскопкі пад кіраўніцтвам супрацоўніка АН БССР З. Пазняка. Яны пралілі святло на некаторыя старонкі гісторыі помніка. Удалося зберагчы ад знішчэння і закансерваваць рэшткі фундаменту касцёла. На ім — фундаменце манастырскіх палацаў — і распачата ўзвядзенне вялікае збудовы.

**«Хрысціянскія навіны». Ватыкан.**

